# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

## ПРАЎДА АБ ГОРКАЙ ТРАВЕ

**МІНСК. (У. Цасюк). Завяршыўся Усесаюзны фестываль аматарскіх фільмаў, якія праходзіў пад дэвізам «Чалавек і свет: гуманнасць, духоўнасць, міласэрнасць, экалогія». Арганізатарам фестывалю стаў Цэнтральны камітэт таварыства Чырвонага Крыжа Рэспублікі Беларусь.**

— У фестывалі прынялі ўдзел кінааматары з розных рэгіёнаў краіны,— расказвае намеснік старшыні ЦК ТЧК рэспублікі Зінаіда Паўловіч. — На суд журы было прадстаўлена 45 аматарскіх фільмаў. У парадку ўдакладнення дадам, што нават з далёкай Рэспублікі Комі прыехалі ў Мінск кінааматары пасптаць свайго шчасця. А яно ўсміхнулася рэжысёру Мікалаю Назарэнку з кінавідэааб'яднання «Кіеўшчына» за фільм «Праўда аб траве горкай». У карціне закрануты праблемы Чарнобыля.

Галоўны прыз фестывалю быў уручаны кіеўскаму аўтару. Унушальна выглядала праграма Літоўскага саюза непрафесіянальных кінематаграфістаў, якая ўсебакова адпавядала дэвізу фестывалю, а работа «У пошуках раўнавагі» (аўтары — Д. Грыголе і В. Грыгаліс) удастоена спецыяльнага прыза Фонду міласэрнасці і здароўя Рэспублікі Беларусь.

## НА БОГА — З АБРЭЗАМ

**КАРМА. У мясцовы райаддзел міліцыі прыбегла ўстрывожаная служка малітоўнага дома вёскі Старая Зенькавіна З. Навасельцава. Яна заявіла, што позна вечарам у дом заявіліся двое незнаёмых, адзін з якіх быў у масцы... Фантамаса. Пагражаючы ёй агнястрэльнай зброяй, яны ўкінулі ў мяшкі дзевяць старадаўніх абразоў, некалькі крыжоў і накіраваліся да сваёй машыны. Калі жанчына ў роспачы ўсклікнула: «Пабойцеся Бога!» той, што быў у масцы, сказаў: «Бачыш, Мікола Угоднік і той маўчыць, табе таксама раім...»**

**Пошукі рабаўнікоў пакуль працягваюцца.**

## «РАДЫЁЛАГ»-МЕЛАМАН

РАГАЧОЎСКІ РАЁН (**У. Пернікаў**). У той час, як людзі занепакоены ўзроўнем радыяцыі на сваіх агародах, пабудовах, гэтым карыстаюцца асобныя жулікі.

Так, у пасёлку Ільіч з'явіўся нейкі малады чалавек з дазіметрам. Хадзіў па вуліцах, рабіў замеры радыяцыйнага фона ў доме эканаміста саўгаса «Бальшавік» В. Емяльянава, нешта запісваў у блакнот, доўга цмокаў языком і ў заключэнне папрасіў прынесці ў хату для праверкі агародніну і садавіну, што знаходзіліся ў склепе. Праз некалькі гадзін пасля заканчэння «абследавання» гаспадар выявіў прапажу свайго японскага магнітафона.

## ГЭТА Ж ЭЛЕМЕНТАРНА!

**МІНСК. Пакінуты пад дыванчыкам ключ выкарыстаў злаўмыснік, які абакраў кватэру, размешчаную ў доме па Старавіленскаму тракту. Гаспадар кватэры «пазбавіўся» трох футравых шапак, магнітафона і касет да яго, дзвюх пар абутку і 7 бутэлек спіртнога.**

**Яшчэ раз папярэджваем: не пакідайце ключы пад дыванчыкамі, у паштовых скрынках і г. д.**

● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ●

## БЕРАЖЫЦЕ ЛЫЖКІ — НАША БАГАЦЦЕ!

**МАГІЛЁЎ. (А. Гаршкоў). Іншым разам і «траяка» не хапае, каб паесці нават у студэнцкай сталоўцы. Ну, а калі ўжо ідзеш у сталовую № 20, што ў цэнтры горада, дык бяры рублёў дзесяць.**

І не сказаць, каб тут шыкоўныя справы падавалі ці абслугоўвалі на ўзроўні з усялякімі там «прабачце» ці «калі ласка». Проста ў гэтай сталоўцы лыжкі і відэльцы выдаюць пад грашовы заклад! Цягнуць наведвальнікі лыжкі, відэльцы, а найбольш «ахайныя» дык і посуд пасля сябе не пакідаюць.

Калі з былых 5.000 алюмініевых лыжак-відэльцаў у кастрычніку ўжо амаль нічога не засталося, а на замену далі прыборы з нержавеючай сталі, работнікі кропкі засумавалі: калі ўжо алюміній выносяць за мілую душу, то што з гэтымі дэфіцытамі будзе? Таму і закладную цану ім вызначылі рыначную: за абедзенны пракат лыжкі — 3 рублі, а жадаеце з відэльцам — «пяцёрачку», калі ласка.

Як кажуць, і я там быў, мёд-піва піў. Чаргі, праўда, не было, і мне хапіла алюмініевых лыжкі і відэльца.

Гледзячы на нязменны плакат з хлебным караваем, з горыччу сам сабе пажартаваў: «Беражыце лыжкі! Лыжкі — наша багацце!»

## «МОРА» НА СЦЕНЦЫ

Больш пятнаццаці відаў плітачных набораў выпускае цэх па вырабу пліткі ў калгасе «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага. Тут можна заказаць нацюрморт, марскі пейзаж і іншыя кампазіцыі. Па жаданню заказчыка і малюнак, і размер пліткі могуць быць зменены.

Штомесяц цэх выпускае да 10 тысяч плітачных набораў, якія карыстаюцца вялікім попытам у спажыўцоў.

**На здымку:** мастакі цэха пліткі Святлана **КАНЦЭДАЙЛАВА** і Ірына **КНІГА** дэманструюць сваю прадукцыю.

**Фота Сяргея ЖАЛУДОВІЧА. (БЕЛТА).**

## НАШ КАЛЯНДАР

**МАХАІЛ і ГАЎРЫЛА адзначаць сёння свае імяніны.**

**У народным календары сёння Міхайла (Міхайлаў дзень) — апошняе свята года. Міхайла лічыцца абаронцам ад грому. «Міхайла мы святкуем, каб гром не біў нас: не сячом ні тапаром, ні нажом, ні красён не тчом...» — так кажуць у Калінкавіцкім раёне. У мінулым у гэты дзень людзі ўважліва сачылі за надвор'ем: калі на сцёках з'яўляўся лёд, то лічылася, што пчаляры будуць з мёдам. Існавала такая традыцыя: да Міхайлава дня трэба было выткаць першыя кросны, другія — у Піліпаўку, трэція — на Мясаед, чацвёртыя — у пост. На гэты дзень заўсёды было пацяпленне, т. зв. Міхайлавы адлігі: «З Міхайлы зіма не стаіць, зямля не мерзне» або «На Міхайлу раздарожжа — аж да зімовага Міколы шляху не будзе».**

**А з падзей грамадска-палітычнага жыцця трэба адзначыць адкрыццё ў гэты дзень 65 гадоў назад (1926 год) у Віцебску Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.**

Выпуск падрыхтавалі: І. КАРНЕЙ, А. КОКТЫШ, А. СЛАНЕЎСКІ, С. СУЛКОЎСКІ, І. ШЧУЧЭНКА.

Нашы тэлефоны: 32-44-02, 32-60-13, 32-31-98.

# НА РЭЙДЗЕ БАЧУ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ...

**Мы сустрэліся ў калідоры рэдакцыі. Чалавек з валявым тварам у форме капітана далёкага плавання прывітаўся і сказаў, што хоча падзяліцца з чытачамі сваёй прапановай. Як далей высветлілася ў гутарцы з капітанам-дырэктарам крабаперапрацоўчага судна «Таманга», якое належыць сумеснаму савецка-японскаму прадпрыемству «Соніка», Міхаілам Ігнатавічам Саўчанкам, прапанова гэта можа рэзка змяніць нашы ўяўленні аб роднай рэспубліцы як традыцыйна не марской дзяржаве. М. Саўчанка — за стварэнне беларускага марскога флоту.**

Родам ён з вёскі Скачыхі, што на Віцебшчыне. Нарадзіўся там у трыццаць дзявятым годзе. Пасля вайны, пакінуўшы родныя мясціны, паступіў вучыцца ў Калінінградскае мараходнае вучылішча і вось ужо больш трыццаці гадоў непарушна звязаны з морам. Аднак пра родную Беларусь не забываў ніколі. Тут заставалася сям'я (жонка і двое дзяцей жывуць у Мінску), тут вучыўся на юрфаку БДУ, абараніў кандыдацкую дысертацыю па міжнароднаму марскому праву. Што яшчэ? Тройчы тануў, гарэў на моры, аднак выжыў. Удзячны лёсу за тое, што дазволіў навуку чалавечай самаахвярнасці, сяброўства і шчырасці прайсці ў маладыя гады. У дваццаць самастойна выйшаў у рэйс трэцім памочнікам капітана буйнога судна. У дваццаць сем падобнае судна ў якасці капітана ўзначаліў сам. Добра ведае Афрыку. На ўласныя вочы даводзілася бачыць, як мы «экспартавалі» туды сацыялізм і колькі гэта нам каштавала.

**— Што прымусіла вас звярнуцца да грамадскасці рэспублікі і, як мы ведаем, да ўрада са сваёй прапановай?**

— У жніўні далёка ад Бацькаўшчыны сустрэла мяне вестка аб абвяшчэнні незалежнасці Беларусі. Душа напоўнілася радасцю за свой працавіты народ. Я палічыў, што змагу сваё веды і вопыт скарыстаць на тое, каб у складаных умовах развалу Саюза дапамагчы рэспубліцы арганізаваць сваё марское ведамства.

Бываючы ў Мінску, бачыў, як бяднее стол яго жыхароў. Рыба знікла ўвогуле, а яе ж ловяць не меней — дзесяць мільёнаў тон штогод. Трапляе яна ў асноўным да замежных пакупнікоў. Нашы судны прадаюць рыбу перакупшчыкам прама ў моры. Галоўнае, каб быў выкананы план па здабычы, а тое, што сёння на паліцах пуста, — гэта нікога не хвалюе. З развалам Саюза пачаў развальвацца і флот, дарэчы, буйнейшы ў свеце. Судны, якія павінны хадзіць пятнаццаць гадоў, эксплуатуюцца па дваццаць пяць. Над многімі з іх уздымаецца расійскі сцяг без усякіх на тое юрыдычных падстаў. Ідзе ціхая прыватызацыя флоту. Рыбаздабываючыя калгасы, якія таксама працуюць у асноўным на замежжа, значную долю валюты выкарыстоўваюць на набыццё тавараў шырокага ўжытку, а не на абнаўленне хадавой базы. У такіх умовах гаварыць аб з'яўленні морапрадуктаў у Беларусі ўвогуле не даводзіцца.

Прымаючы пад увагу рэаліі сённяшняга дня, уяўляецца, што наспеў час скарыстаць сваё неад'емнае права — права суверэннай унутрыкантынентальнай дзяржавы на тое, каб судны пад марскім флагам Рэспублікі Беларусь плавалі ў адкрытым моры, правам на доступ да мора і на транзіт праз тэрыторыю суседніх узбярэжных дзяржаў, а таксама на ўдзел у эксплуатацыі жывых і мінеральных рэсурсаў эканамічных зон узбярэжных дзяржаў і адкрытага мора.

Гэта права замацавана ў Жэнеўскай канвенцыі аб адкрытым моры 1958 г. і Канвенцыі аб транзітным гандлі ўнутрыкантынентальных дзяржаў 1965 г., а таксама знайшло пацвярджэнне ў Канвенцыі ААН па марскому праву 1982 г., падрыхтаванай III Канферэнцыяй ААН па марскому праву, удзельнікам якой была Беларуская ССР з першай да апошняй сесіі. Дарэчы, яна ж паставіла і свой подпіс пад гэтай Канвенцыяй, а таксама пад Заключным актам.

У сувязі з гэтым і ўношу прапанову аб стварэнні дзяржаўнага ведамства па марскіх справах. Зразумела, што ў такой складанай палітычнай і эканамічнай абстаноўцы нялёгка рашыцца на стварэнне новай «бюракратычнай» структуры, аднак гэты крок неабходна зрабіць. На першым часе яно можа быць у сістэме ўжо існуючага міністэрства ці дзяржкамітэта, скажам, МЗС ці Дзяржкамітэта па знешніх эканамічных сувязях.

Стварэнне міністэрства марскога рыбапрамысловага і транспартнага флоту Рэспублікі Беларусь (назавём так гэта ведамства) дыктуецца неабходнасцю дабіцца прызнання Беларусі марской дзяржавай. Трэба афіцыяльна зарэгістраваць Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь у Міжнароднай марской арганізацыі і Рэгістры суднаходства Ллойда. Затым неабходна атрымаць квоту на лоўлю рыбы і іншых морапрадуктаў у эканамічных зонах узбярэжных дзяржаў і ў адкрытым моры шляхам перагавораў з гэтымі дзяржавамі і міжнароднымі рыбалоўнымі арганізацыямі.

Усе мае прапановы заснаваны на добрым веданні марскога права, існуюць добрыя асабістыя сувязі з кіруючым саставам шэрагу баз здабываючага флоту. Беларусам абяцаюць дапамагчы. Марудзіць нельга ні дня яшчэ і таму, што калі мы не паспеем заявіць юрыдычна аб сваім праве на падняцце марскога сцяга і не пададзім заяўкі ў адпаведныя саюзныя і міжнародныя інстанцыі для ўстанаўлення квоты на здабычу рыбы да пачатку будучага года, — спадзяванні на паляпшэнне стану з рыбнымі прадуктамі будуць марнымі.

**— Ці знайшла падтрымку ваша ініцыятыва ў нашага ўрада?**

— Упершыню сваімі планамі я падзяліўся са Старшынёй Дзяржаўнага камітэта па знешнеэканамічных сувязях У. Радкевічам, намеснікам міністра замежных спраў У. Сянько і Старшынёй Дзяржэканомплана С. Лінгам. Усе яны — «за».

Дамоўлена аб сустрэчы з прэм'ерам. Падтрымліваюць мае прапановы і дэпутаты парламента...

**— Выходзіць, можна спадзявацца, што мы калі-небудзь убачым на рэйдзе бел-чырвона-белы сцяг?**

— Я ў гэта веру, але падкрэслю яшчэ раз, трэба рабіць усё як мага хутчэй.

**Гутарыў Віктар ХУРСІК.**

# Не забі?

**«— Вы не ведаеце, Ева, як вешаюць людзей?—як бы незнарок спытаў Мэйсан.**

**— Што-о?**

**— Дык вось. Пакаранне адбываецца звычайна на досвітку. Уваходзяць у камеру і зачытваюць абвінавачанаму смяротны прысуд, а затым звязваюць ззаду яму рукі, а да спіны прывязваюць дошку, каб ён не ўпаў, калі ад жаху яго перастануць слухацца ногі. Затым прыйдзецца паднімацца на шыбеніцу па трынаццаці прыступках. Вакол стаяць турэмныя наглядчыкі,— адзіныя сведкі кары. Кат надзявае на галаву пятлю і чорны мяшок, затым звязвае ногі...**

**— Даволі! Хопіць!!!»**

**(Эрл Стэнлі Гарднер «Аксамітныя кіпцюрыкі»)**

Кажуць, у нас гэта робіцца прасцей. Асуджаны нават не здагадваецца. Яму яшчэ раз зачытваюць прыгавор суда, паведамляючы пры гэтым, што чарговае прашэнне аб памілаванні адхілена, і зноў адводзяць у камеру. Заклапочаны, ён нават не заўважае, што вядуць яго не той дарогай і што ахоўнік за спінай зусім іншы. Са скрыгатам адчыняюцца цяжкія жалезныя дзверы. Новая камера... Чаму? Адказ не паспявае прыйсці ў галаву. Пісталетны стрэл ззаду ў «жыццёва важны орган» абрывае думкі. Назаўсёды.

Па меркаванню аднаго чалавека, якога ў вялікім газетным матэрыяле, перадрукаваным затым многімі выданнямі, назвалі коратка — «выканаўца», «наш» метад — самы гуманны. Маўляў, у іх, на дэмакратычным Захадзе, асуджаны праходзіць праз страшэнныя маральныя мукі, перш чым наступіць фізічная смерць, а ў нас жа ўсё проста — нават і падумаць не паспее.

Пакаранне смерцю... Выключная, вышэйшая мера. Па-рознаму гэта называюць. Сутнасць адна — у чалавека забіраюць жыццё. Кажуць: навошта абмяркоўваць з Богам пытанне аб яго існаванні? Так і тут: здзейснена цяжкае злачынства, і вінаваты павінен панесці заслужаную кару. Якія ж сумненні? Але ж, мусіць, колькі часу існуе чалавецтва свядома, столькі ж і доўжацца спрэчкі юрыстаў, філосафаў, звычайных людзей — быць ці не быць гэтаму.

«Не забі!» — адна з асноўных біблейскіх запаведзяў. Па логіцы думкі, яна ў аднолькавай ступені звернута як да патэнцыяльнага злачынцы, забойцы, так і да «выканаўцы» — прафесіянала, таго, хто выконвае смяротны прысуд.

За ўсю ж шматвекавую гісторыю нашай дзяржавы толькі двойчы, у савецкі ўжо час, рабіліся беспаспяховыя спробы адмяніць смяротнае пакаранне: у 1917 і 1947 гадах. Што адбывалася ў краіне ў наступную чвэрць стагоддзя пасля семнаццатага,— вядома; што магло б адбыцца пасля сорак сёмага, калі б «бацька народаў» працягнуў яшчэ з дзесятак гадоў,— можна здагадацца. Але не будзем думаць, гадаць, што было б, калі б... Паглядзім, што маем на справе. Вось звесткі, апублікаваныя сёлета Міністэрствам юстыцыі СССР.

З 1962 па 1990 год у краіне прыгаворана да смерці 25 тысяч чалавек (прыблізна 800 у год). 95 працэнтаў пакараных — асобы, якія здзейснілі наўмыснае забойства пры абцяжарваючых абставінах. Калі ў 1985 годзе да «вышкі» было прыгаворана 770 чалавек (з іх памілавана 20), то год назад па «расстрэльнаму артыкулу» ішло толькі 195 злачынцаў, з якіх памілавана 29.

І яшчэ да ведама. Смяротнае пакаранне прымяняецца больш чым у 100 краінах свету. Арганізацыя Аб'яднаных Нацый мае намер, як паведамляецца, яшчэ раз абмеркаваць прапанову аб яго адмене ва ўсіх краінах.

Цяжка зараз сказаць, наколькі гэта рэальна, хто з дзяржаў і калі захоча далучыцца да такога пагаднення. А пакуль у Іране і сёння гандляроў наркотыкамі вешаюць партыямі па 10—20 чалавек прынародна на гарадскіх плошчах, у Кітаі іх расстрэльваюць на стадыёнах таксама ў прысутнасці тысяч людзей.

А што ж Беларусь на гэтым фоне?

Колькі? За што? Дзе? Адказу на гэтыя пытанні пакуль няма. Між тым яго ўжо чакаюць. Асабліва ў святле падзей, якія разгарнуліся ў міжрэччы Буга і Сожа, Дняпра і Дзвіны ў апошнія два месяцы. Незалежная Рэспубліка, свабодныя ад уціску цэнтра Пракуратура і Суд, новыя артыкулы Крымінальнага кодэксу — не перапісаныя механічна ў кагосьці, а створаныя згодна з традыцыямі, звычкамі і законамі, якія спрадвеку існавалі менавіта на нашай зямлі. Зразумела, з істотнай папраўкай на час. Да чаго гэта я? Літаральна некалькі дзён назад інфармацыйная праграма

## Тэма для размовы

ЦТ паказала сюжэт з Чэчэна-Інгушэціі. Там, у Грозным, у натоўпе людзей нейкім чынам быў выяўлены супрацоўнік мясцовага КДБ. «Што з ім будзе?» — задае пытанне карэспандэнт.— «Яго будзе судзіць народ» — пачуўся адказ. — «Народ?» — «Так, народ!». І народ асудзіў. Ужо на наступны дзень цела гэтага чалавека апазнавалі родныя ў гарадскім моргу. Так бывае сёння. У канцы XX стагоддзя.

Суд народа, кроўная помста, шмат чаго іншага. Такія норавы абмінулі, на шчасце, наш народ. У нас жыццё адбіраюць «цывілізавана», па закону. А ў самым хуткім часе гэта будзе адбывацца на нашай тэрыторыі, нашымі «выканаўцамі» па нашых, беларускіх законах.

А як жа грамадская думка? Яна таксама прачынаецца. Вось пісьмо з Гомеля.

«Усё часцей сёння ўзнімаецца пытанне аб адмене смяротнага пакарання, як негуманнага ў наш перабудовачны, амаль дэмакратычны час»,— піша рабочы «Гомсельмаша» Алег Бранкоўскі. І працягвае: «Гуманна аднесціся да забойцы — гэта значыць плюнуць у вочы працоўнаму народу. Калі нейкі «дзядзька» або «цётка» з улады могуць разлічваць на асабістую ахову, як і багаты бізнесмен, кааператар, то на якую абарону можа разлічваць звычайны рабочы? Яму што, на вуліцу не выходзіць, як сцямнее? Можа, яшчэ дазволім для поўнай справядлівасці продаж агнястрэльнай зброі? Як жа, купляйце і абараняйцеся! На Украіне пытанне аб смяротным пакаранні абмяркоўвае Вярхоўны Савет. Я слухаў іх сесію па радыё і што здзіўляе: большасць выступаючых дэпутатаў выказвалася за адмену вышэйшай меры. Не ведаю, як будзе абмяркоўвацца гэтае пытанне ў нашай рэспубліцы, але затое ясна мне адно: быць ці не быць смяротным прысудам — можа вырашыць сам народ сваім галасаваннем. Рашэння ягоных прадстаўнікоў у парламенце тут зусім недастаткова. Я ж быў, ёсць і буду за прымяненне вышэйшай меры, бо зразумела, што людзі пакуль маральна не выспелі, а дараваць злачынцам — значыць прымнажаць усёдазволенасць і беззаконнасць!»

Вось так катэгарычна выказаўся гомсельмашаўскі рабочы. Мы б змясцілі і іншую думку— як заведзена, супрацьлеглую. Калі б яна была. Але ж яе не было. Дзесяць чалавек, апытаных па тэлефоне, адказалі таксама катэгарычна: быць! Не на тых натрапілі, скажаце. Але ж спецыяльна не выбіралі! Рана ці позна нашы заканатворцы падыдуць да гэтай праблемы зноў. У якім асяроддзі яе стануць вырашаць — пакуль не вядома. Будзем спадзявацца, што пачуюць голас і кожнага з нас.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

## БІ-БІ-СІ

**▲ Расследаванне, якое правяла рэвізійная служба ААН, паказала, што мільёны долараў, накіраваных ААН афганскім бежанцам, бясследна зніклі. Выяўлены таксама шматлікія фінансавыя злоўжыванні, адсутнасць неабходных дакументаў на размеркаванне гэтых сродкаў. Напрыклад, 2,5 мільёна долараў, якія выдзеліла Францыя, былі ўвогуле не зарэгістраваныя. А грошы на набыццё палатак для афганцаў пайшлі курдскім бежанцам у Турцыю.**

▲ Гарбачоў назначыў Шэварднадзе міністрам знешніх зносін з мэтай выкарыстаць вялікі міжнародны аўтарытэт экс-міністра замежных спраў СССР для таго, каб нейкім чынам умацаваць (калі такое ўвогуле магчыма) аўтарытэт савецкай дзяржавы. Адначасова— гэта аргумент на карысць захавання асобных структур Саюза.

**▲ Прызначэнне Панкіна паслом у Лондан ацэньваецца як жаданне СССР і далей развіваць і падтрымліваць узаемавыгадныя сувязі з Брытаніяй.**

▲ Ніхто дакладна не ведае знешняй запазычанасці СССР. Яна складае сама менеў 65 мільярдаў долараў. Называюцца і значна большыя лічбы. Дэфіцыт плацёжнага балансу СССР сёлета вырасце ў 4 разы. Калі СССР страціць плацежаздольнасць, то прыток заходніх тавараў у краіну зусім спыніцца. Па прагнозах, СССР будзе працягваць браць грошы ў доўг.

**▲ У сувязі з заканчэннем «халоднай вайны», скарачэннем асігнаванняў на ўзбраенні ў Вашынгтоне аб'явілі, што будуць паступова выводзіць войскі з Паўднёвай Карэі. Гэта навіна выклікала заклапочанасць у краіне, бо, па ацэнках спецыялістаў, яе сусед — Паўночная Карэя — праз некалькі гадоў ужо будзе мець уласную ядзерную зброю.**

▲ На Захадзе зараз папулярны анекдот наконт арганізацыі СП у СССР. У Еўропе СП ствараецца такім чынам. Адзін другому кажа: залазь мне на плечы, нарві яблыкаў, якія мы потым падзелім. У СССР іншы падыход: давай я залезу табе на плечы, і мы пойдзем шукаць яблыкі. Гэты анекдот адлюстроўвае становішча з СП у СССР. З агульнай колькасці зарэгістраваных СП дзейнічаюць толькі чвэрць, а працуюць не больш 5 працэнтаў. У асноўным гэта пасрэдніцкія прадпрыемствы, якія не патрабуюць вялікіх капукладанняў. З боку Захаду ў СП удзельнічаюць дробныя фірмы і выхадцы з СССР. Буйны капітал пакуль не спяшаецца на савецкі рынак.

**▲ Вядомы савецкі эканаміст і палітычны дзеяч П. Буніч заявіў у Лондане аб неабходнасці стварыць у краінах Усходняй Еўропы замест былога СЭУ свой рынак. Гэтыя краіны маюць даўнія гістарычныя сувязі, акрамя таго, іх тавары неканкурэнтаздольныя на заходнім рынку. Таму былым усходнім саюзнікам трэба зноў наладжваць эканамічныя сувязі.**

## РАДЫЁ «СВАБОДА»

▲ Генеральны пракурор Ірана аятала Мусаві на чале дэлегацыі прыбыў у Азербайджан. Перад адлётам ён заявіў, што мяркуе пракансультаваць азербайджанцаў адносна ісламскай юрыдычнай сістэмы ў Іране.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

# Цэх на замку

## 280 рабочых Пінскага завода штучных скур адпраўлены ў неаплачваемы трохтыднёвы адпачынак

**Яшчэ год назад такое паведамленне расцэньвалася б як «ЧП». Цяпер падобная навіна ўжо не выглядае сенсацыяй. Паводле паведамленняў цэнтральнай прэсы, на сённяшні дзень з 3.200 прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці краіны прастойваюць 800. Прычына агульная — эканамічны хаос, парушэнне гадамі адпрацаваных гаспадарчых сувязей, абвешчаны ўсюды суверэнітэт, які перакрэсліў заключаныя дагаворы на пастаўку сыравіны, матэрыялаў. Як выказаўся адзін паважаны народны дэпутат, па ўсім бачна — наступіла эканамічнае бязмежжа.**

Што ж адбылося на заводзе штучных скур, гэта ж адно з самых стабільных прадпрыемстваў горада?

Слова дырэктару Сяргею Аляксандравічу Віцязю:

— Затрэсла нас яшчэ ў першым паўгоддзі. Становішча з валютай вядомае. А за яе купляюцца ў Германіі пластыфікатары. Міністэрства здолела знайсці сродкі для 100 тон гэтага матэрыялу, якога павінна было хапіць да лета, а сам пластыфікатар паступіў у канцы чэрвеня. Не хапіла і эмульсіённай смалы. А гэта аснова для выпуску штучнай скуры.

Не лепшае становішча складвалася і са сталовай плёнкай. Барыслаўская фабрыка Івана-Франкоўскай вобласці з-за сваіх праблем практычна паўгода не працавала і не пастаўляла нам нятканую аснову для плёнкі. Увогуле, каб не стамляць чытача, скажу, што да 1 лістапада завод недадаў рознай прадукцыі на 20 мільёнаў рублёў. Гэта перш за ўсё штучная скура, плёнка, пераплётны матэрыял. Прадпрыемствам страчана каля 5 мільёнаў рублёў прыбытку. А ва ўмовах рыначнай эканомікі гэтыя сродкі патрэбныя, як паветра. І на новую тэхніку, і на сацыяльную абарону людзей ад астранамічных цэн, якія павялічваюцца з кожным днём.

## Ідзём да рынку

Але вернемся да сённяшняй сітуацыі. 11 лістапада калектывы двух важнейшых цэхаў— штучных скур і сталовай плёнкі — згадзіліся пайсці да 1 снежня ў адпачынак без утрымання. Трэба ацаніць цярпенне і мужнасць рабочых. Бо кожны з іх страціць у сярэднім ад 300 да 400 рублёў, якія ў сямейным бюджэце былі б далёка не лішнімі.

Мы ўжо прыкінулі, што за гэтыя тры тыдні страцім яшчэ на 6 мільёнаў рублёў прадукцыі. Прычына адна — няма пластыфікатару. Нашы ўкраінскія пастаўшчыкі ў сваю чаргу спасылаюцца на недапастаўку ім тэхнічнага спірту. Вось кола і замкнулася.

Уся гэта блытаніна прывяла да цяжкага фінансавага становішча. Прыйшлося ўпершыню звярнуцца ў банк за 2-мільённым крэдытам.

Некалькі думак услых. Усур'ёз баюся за далейшы лёс завода і працоўнага калектыву. Створанае ў эпоху «Саюза непарушных рэспублік свабодных», прадпрыемства атрымала ў спадчыну 300 пастаўшчыкоў, з якіх толькі 2 размешчаны ў Беларусі. Гэта Кобрынская прадзільная фабрыка і Мінскі фурнітурны завод. Асноўная ж сыравіна і матэрыялы ідуць з Украіны і Расіі. І пакуль не будуць падпісаны салідныя эканамічныя пагадненні паміж гэтымі цяпер суверэннымі дзяржавамі, усе размовы аб нармальнай цывілізаванай эканоміцы застануцца пустым гукам.

Ці не аб гэтым гавораць вынікі двух кірмашоў (рэспубліканскага і міжрэспубліканскага)? Раней на іх заключаліся дагаворы на пастаўку сыравіны, на рэалізацыю прадукцыі. Завод ведаў свой заўтрашні дзень. На апошніх жа прайшоўшых кірмашах ні аднаго дагавора нам заключыць не ўдалося. Таму што ні ў кога няма гарантый выканання сваіх дагаворных абавязацельстваў. Як жыць у такіх умовах?

Мы ўжо скарацілі 120 рабочых. Баюся, і далей нельга будзе абысціся без такой непапулярнай меры. А за кожным жа чалавекам — сям'я, дзеці. Ці не стане для іх трагедыяй страта работы?

Усе гэтыя думкі выкладзены ў пісьме кіраўніку ўрада рэспублікі В. Кебічу. Пакуль ніякай рэакцыі на яго не было. Застаецца толькі чакаць і спадзявацца на лепшае.

**С. ШАПІРА.**

г. Пінск.

# Да ведама падпісчыкаў

**«ПАДПІСКА НА «ЗВЯЗДУ» ПРАДОЎЖАНА ДА 25 ЛІСТАПАДА» — так у нумары за 16.10.1991 г. наша газета паведаміла сваім сябрам і пастаянным чытачам. Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь і «Белсаюздрук» пайшлі насустрач рэдакцыі і прыхільнікам нашага выдання з адной мэтай, каб літаральна кожны, хто па розных прычынах своечасова не паспеў аформіць падпіску, але жадае атрымліваць і чытаць нашу газету, меў магчымасць зрабіць гэта зараз.**

**Аднак паступілі сігналы, што ў 36-м, 38-м г. Мінска і некаторых іншых аддзяленнях сувязі адмовілі людзям аформіць падпіску на «Звязду». Тлумачэнне адно: маўляў, няма ніякага ўказання «зверху».**

**Пацвярджаем: ЁСЦЬ ТАКІ ДАЗВОЛ — падпіска на «Звязду» прадоўжана да 25 лістапада. Проста неабходная папера своечасова не паступіла ў аддзяленні сувязі і «Саюздруку».**

**Ідуць апошнія дні дадатковага тэрміну падпіскі на «Звязду». Просьба да вас, паважаныя чытачы: спяшайцеся выпісаць нашу газету!**

**Напамінаем: цана падпіскі на 1992 год — 19 рублёў 80 капеек.**

Ф. СП-1

Министерство связи СССР
„Союзпечать"

АБОНЕМЕНТ на газету 63850 (индекс издания)

„ЗВЯЗДА"

Количество комплектов 1

на 19 92 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ______ (почтовый индекс) ______ (адрес)

Кому ______ (фамилия, инициалы)

ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА

ПВ | место | литер

на газету 63850 (индекс издания)

„ЗВЯЗДА"

| Стоимость | подписки | ___ руб. ___ коп. | Количество комплектов: | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | переадресовки | ___ руб. ___ коп. | | |

на 19 92 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ______ (почтовый индекс) ______ (адрес)

Кому ______ (фамилия инициалы)

